# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР



ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ





За гарачае сьнеданьне ў школе.

№ 12 1926 г.

# Не прапускайце лекцыяў.

Мабыць усім даводзілася наглядаць, як на трыместравых заліках шмат з вучняў правальваецца, нічога ня ведае, блытаецца ў адказах і заўжды робіць уражаньне дрэннага вучня. Такіх вучняў часьцяком гультаямі завуць і папярэджваюць ад гэтага астатніх.

Так бывае ў канцы кожнага трыместру, а пасьля гэтага маем: трэба застацца тэй ці другой групе на другі год, трэба ўлетку, заместа таго, каб адпачыць—выпаўняць заданьні, якія ўзімку выканаць не пасьпеў. Усе гэтыя хібы адбіваюцца і на здароўі.

Чаму-ж з шмат якімі вучнямі так здараецца? Няўжо ня можна так зрабіць, каб гэтага ня было?

Бязумоўна, можна. Усё гэта залежыць ад сьвядомасьці самых вучняў.

У большасьці такія выпадкі бываюць з тае прычыны, што да сваіх непасрэдных абавязкаў вучні адносяцца без належнай павагі, ня выконваюць школьных заданьняў, або зусім адхіляюцца ад школьнага навучаньня, цэлымі тыднямі ня ходзяць у школу.

Вось супроць гэтых галоўных заганаў, няприсутнічаньня на лекцыях і трэба нам павесьці рашучую барацьбу.

Бываюць такія вучні, што ня прыходзяць тыдзень—другі ў школу, а калі дапытаешся іх чаму так здарылася, дык зараз-жа і адказ знойдуць: у таго галава балела (два тыдні?), у таго дома праца па гаспадарцы была, таму з бацькамі кудысьці трэба было ісьці і г. д.

Але тыя вучні, якія і запраўды ня мелі магчымасьці прысьці ў школу, яны зараней гаварылі аб гэтым загадчыку школы, а пасьля прыкладвалі ўсе сілы, каб хутчэй дагнаць сваіх таварышоў.

Але гэта выпадкі.

Тыя-ж, якія заместа таго, каб да школы ісьці—ганяюць сабак па вуліцах або дзе небудзь пад страхой з таварышамі вучацца курыць цыгаркі, калі выпадкова наведаюцца да школы, зараз-жа пачнуць маніць, выдумляюць розныя хлусьлівыя прычыны.

Дома абавязкова скажа матцы, што йдзе да школы, а сапраўды недзе туляецца.

Трымаць курс на манюку ня трэба, бо такіх грамадзян савецкая ўлада не патрабуе і савецкая працоўная школа таксама не навучае гэтаму.

Адхіляцца ад лекцыяў, значыцца губіць марна час на навучаньне. Савецкая ўлада шмат траціць грошай на гэту справу, але за тое яна вымагае ад нас, каб мы ў будучым сьвядома прынялі ўдзел у будаўніцтве нашае рэспублікі.

А якія-ж сьвядомыя будаўнікі з такіх лайдакоў выдуць? Занадта дрэнныя. А па гэтаму мы павінны паставіць перад сабой такі лёзунг: **не павінна быць такіх вучняў, што прапускаюць лекцыі, прэч гультайства!** і наўкол гэтага лёзунгу распачаць працу.

Піонэры (як і заўсёды) у гэтым павінны быць наперадзе і паказваць прыклад.

Але раней трэба зьнішчыць такое гультайства між самых піонэраў. Калі піонэры пакажуць прыклад і павядуць, як трэба працу, тады зразумела ад манюкаў і гультаёў у нашай школе мы пазбавімся.

---

## ЗЬМЕСТ № 12.



---


Менск, 1-я Дзярж. друкарня. Зак. № 879. У ліку 4300. Галоўлітбел № 23009.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
на 12 м. . . 1 р. 80 к.
на 6 м. . . — 90 к.
на 3 м. . . — 45 к.
на 1 м. . . — 15 к.

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Пляц Волі,
Наркамасьветы БССР
— тэлефон № 443. —

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ—ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 12. СЬНЕЖАНЬ 1926 г.

## Organізуем горачае сьнеданьне!

Гарачае сьнеданьне—для нашых школ навіна. А між іншым, яно зьяўляецца самым неабходным у школе. У вапошні час на організацыю гарачага сьнеданьня ў школе *зьвярнулі вялікую ўвагу нашы адпаведныя ўстановы*. Але за гэтую справу ў першую чаргу *павінны ўзяцца самі вучні*. Бяз іх зацікаўленасьці і бяз зацікаўленасьці гэтым пытаньнем форпостаў цяжка, ды й немагчыма, правесьці ў жыцьцё гэтага важнага сёньняшняга лёзунгу нашай школы—*„За гарачае сьнеданьне!“*



Цяпер паглядзім, ці апраўдвае сапраўды сябе гарачае сьнеданьне ў школе, можа гэта толькі лішні клопат, які не прынясе і ня прыносіць ніякай карысьці.

Бязумоўна, *апраўдвае*.

У тых мясцох, дзе быў праведзены мэдыцынскі агляд вучняў і піонэраў, выявілася, што амаль *90 проц. дзяцей хварэюць малакроўем*, галаўнымі і інш хваробамі, якія вынікаюць ад ненормальнага харчаваньня. Гэткую ненормальнасьць прыходзіцца *пераносіць дзецям асабліва ў школе*. Найчасьцей бывае так, што школа знаходзіцца далёка ад дому. Зьбегаць пасьнедаць дамоў у часе пераменкі немагчыма. Вучні ў такім разе карыстаюцца сухім хлебам ды яшчэ якім кольвек такім-жа сухім куском мяса ці каўбасы.

Піонэры і вучні добра ведаюць, што здароўе *чалавека цалкам залежыць ад харчаваньня і жыльля*. Добрае харчаваньне, чыстая і сьветлая хата—гэта здароўе для чалавека.

Вось чаму так востра і паўстае пытаньне перад нашай школай *аб замене сухой стравы гарачым сьнеданьнем* для тых вучняў, якія ня маюць магчымасьці бегаць у часе пераменкі дамоў.

Як-жа організаваць гарачае сьнеданьне?

У гарадох і мястэчках, бязумоўна, правесьці гэта ня так ужо цяжка. Да справы організацыі гарачага сьнеданьня трэба прыцягнуць усе зацікаўленыя ў гэтым установы і мясцовыя організацыі (ячэйка КСМ, Школьны Савет, ячэйка КП(б)Б і інш). Пры дапамозе іх трэба склікаць сход бацькоў і растлумачыць ім карысьць гарачага сьнеданьня ў школе. Бязумоўна, бацькі на гэта згодзяцца. Тым больш, што кошт такога сьнеданьня будзе складаць ня больш 10—12 кап. на дзень. Тэхнічная праца (організацыя кухні, пасуда і г. д.) перашкод вялікіх таксама не спаткае. Пры жаданьні і зацікаўленасьці ў справе бацькоў і належных організацый сродкі ва ўсякі час можна адшукаць.

Там, дзе гарачае сьнеданьне ўжо наладжана, *вучні застаюцца вельмі задаволенымі*. У вёсцы, дзе цяжка будзе спачатку організаваць добрае сьнеданьне (бацькі не заўсёды будуць мець магчымасьць дапамагчы ў гэтым), *варта і пажадана мець хоць гарачае малако ці чай*. Апошняе зусім танна і адначасна зьявіцца дужа карысным для піонэраў і вучняў, якія сапраўды хочуць выхаваць з сябе здаровых людзей, карысных для Савецкай дзяржавы.

Дык дружна-ж адгукнемся ўсе *за організацыю гарачага сьнеданьня*. Будзем помніць, што правільнае і добраякаснае харчаваньне павялічыць нашу *працаздольнасьць, дапаможа нам стаць здаровымі і дужымі!*



# Маленькі балагол

*(Малюнак з жыцьця мястэчка).*

Ужо цэлы тыдзень хварэе балагол Лейба. У хаце сум, у хаце непарадкі. Рэчы не на месцы. Падлога ня мытая другі месяц, на скрыпучым зэдлі стаіць нямытая пасуда. Маці бегае, як няпрытомная: плача, злуе, кагосьці кляне і жаліцца на свой лёс.

„Ой, прапала я! Ой што-ж мне рабіць?— галосіць яна... А дзеці—хоць бы што. Яны вясёлыя, ім хочацца пець, хочацца гуляць, падскакваць. І яны пяюць, гуляюць, сваволяць, сьмяюцца. Маці злуе: „Ша, шчаняты! Сьціхніце! бацька хворы!“ Яна пазірае ў вакно, б'е кулакамі па раме і кліча: „Нохім! Нохім!“ Упэўнілася, пазіраючы на вуліцу, што Нохіма няма; села і ціха заплакала, хвартухом зганяючы сьлёзы. Выцерла вільготны нос, ціхутка падышла да спальні, дзе ляжаў хворы Лейба, зірнула на яго, пасьля адвярнулася, пачуўшы моцны дзіцячы сьмех, уздыхнула і сказала з вялікім жалем: „Вось і прычакай ты дзяцей. А што з іх за карысьць, калі яны нягодныя?“ У гэты момант дзеці пачалі сварыцца. Дзяўчынцы Пэсі спадабалася прыгожая цацка яе малога брата Бэркі. Яна адабрала цацку і схавалася ў куточак пад стол. Бэрка падняў страшэнны гвалт на ўсю хату, пакаціўся на брудную падлогу, забарабаніў ножкамі, заляпаў ручкамі і гэтак запішчаў, што хоць вушы затыкай. Да Пэсі падбегла Рася, схапіла Пэсю за руку, адбірае цацку. Пэся не дае, кусаецца, брыкаецца нагамі і наском дзіравага чаравіка штурханула Расі ў бока. Рася падн'мае дзікі лямант, кідаецца, як ашалелая, на Пэсю і рве са злосьцю яе сукенку. Пэся закрычала, пляснула рукамі, залілася сьлязамі і бяжыць да маткі на скаргу, паказвае на сукенцы вялізарную дзірку. Плача Бэрка, плача Пэся, плача Рася, застагнаў у спальні бацька. Матка закрывае рукамі вушы і з грудзей яе вырываецца: „Ой, прапала я! Ой, што-ж мне рабіць?“ Маці тупае нагамі, трасе кулакамі на дзяцей, каб супакоіліся, але яны ня чуюць. Як няпрытомная бяжыць маці ў кухню, каб схапіць папругу і супакоіць ім дзяцей, але зачапілася за ножку зэдля. На зэдлі шмат пасуды: місачкі, гаршчочкі, белыя талеркі. Зэдаль заскрыгатаў, пахіліўся і спаважна ляпнуў на падлогу. Пачуўся такі трэск, такі шум, такі звон, што нават дзеці прыціхлі, што аж твар маткі зрабіўся белы, як талерка.

— Ой, зусім жа я прапала!—загаласіла маці, пазіраючы з жахам на рассыпанае чарап'ё.

Адчыніліся дзьверы і ў хату ўвайшоў Нохім. На яго грудзёх чырванее новенькі чысты гальштук прышпылены значком КІМа, у руцэ жмут паперы. Маці злосна зірнула на яго:

— Гультай! Абібок! Дзе ты прападаў? Чаму ня працуеш?

Нохім разабраўшыся ў чым тут рэч, за што яго матка лае, кідае ўсё і йдзе да хворага бацькі, а матка злосна кідае яму: „Каб ты не дачакаў хадзіць! Каб ты лопнуў! Каб ты“... Матка не знаходзіць больш слоў ад наплыву злосьці і змаўкае.

У маткі свой клопат, у Нохіма свой. Матка ня хоча слухаць аб тым, што ў Нохіма ёсьць праца ў піонэрскім атрадзе, ёсьць праца і ў школе. І матка моцна крычыць: „Гэта ня праца, а гульня, яшчэ горш,—гэта глупства, якое ня варта добрае гульні“. Што з ёй можа зрабіць Нохім: не разумее яна яго працы. Са злосьці матка шмат што нагаварыла і пагражала Нохіму, што, апрача валацугі ды басяка, з яго нічога больш ня будзе. А Нохім прывыкнуўшы да лаянак і упікаў маткі, ня гневаецца, а зусім спакойна, як бы нічога ня чуючы, робіць тое, што яму належыць. Ён ведае, ён упэўнен, што матка супакоіцца, пакіне злаваць, прыгорне яго да сябе і моцна, моцна пашкадуе. Чаму-ж матка цяпер злуе, плача і лаецца? А таму, што ў хаце парушаны звычайны парадак: захварэў бацька і сям'я апынулася пад пагрозай голаду. Гэта й трывожыць так матку. Толькі гэтага ніяк ня могуць зразумець дзеці, у тым ліку і старэйшы ад іх Нохім, які так захоплены сваёй працай і ў атрадзе і ў школе. Але Нохім шкадуе матку, калі бачыць яе вялікае засмучэньне. Ён спатыкае яе прыемным поглядам, у якім выразна намалёвана: „Мамачка, супакойся“! І матка праз нейкі час супакойваецца. Яна падыходзіць да Но-

хіма і ласкава кажа: „Сыночак, што-ж нам рабіць?

— Трэба паклікаць доктара,—з нейкім нявыразным сумам адказвае Нохім і тут-жа йдзе да доктара, ад доктара з рацэптам у аптэку, даглядае за хворым бацькам, супакойвае дзяцей, корміць каня, вучыць лекцыі, бяжыць праводзіць гутаркі з піонэрамі...

А ўвечары, калі заснулі дзеці, а работы для маткі стала крыху менш, яна падышла да Нохіма і, пільна пазіраючы яму ў вочы, сказала: „Сыночак, у нас няма хлеба!“ Твар у Нохіма робіцца сур‘ёзным. Нохім маўчыць глыбока, задумаўся, прыкусіў губу, глянуў на брудную падлогу, на ложак, дзе спалі дзеці, на матку, пасьля зноў на дзяцей. Матка маўчыць. Яна глыбока аб нечым задумалася. У спальні за шырмаю кашлянуў бацька. Нохім здрыгануўся. Сур‘ёзна глянуў на матку і рашуча сказаў: „Мама, я буду балаголам!“

На вачох маткі заблішчэлі буйныя сьлёзы. Яна ўцерла хвартухом твар і абнімаючы Нохіма сказала: „Бедны ты мой, маленькі балагольчык!“

II.

З пугаю ў руцэ, у бацькаўскіх рыжых ботах, у цёплай вушатай шапцы ходзіць Нохім па вуліцы, шукае яздакоў і спаткаўшы каго небудзь незнаёмага, зазірае яму ў вочы і пры гэтым пытае: „Можа вам трэба на станцыю? Я завязу“. Але ўсе, каго ён пытаў, пазіралі на яго з нейкім зьдзіўленьнем, альбо з жартаўлівай усьмешкай, прымаючы яго словы за жарт.

Прыкра было пазіраць Нохіму, калі старыя, звычайныя балаголы мелі на сваіх вялікіх вазох па тры, а то і па чатыры яздакі з цэлаю кучаю розных кошыкаў і клумкаў, а ў яго няма нікога, ня гледзячы на тое, што ён прахадзіў, шукаючы гэтых яздакоў, цэлага паўдня. Ён адчуваў сябе моцна пакрыўджаным і з жалем на сэрцы, крыху раззлаваны за тое, што дарма страціў час, вярнуўся да хаты і сеў абедаць, але страва



... ён перайшоў на другі бок вуліцы і доўга, доўга глядзеў на яе з вялікім здавальненьнем.

чамусьці была зусім нясмачная. Нохім палажыў лыжку і глыбока задумаўся над сваім далейшым становішчам. У гэты момант хтось забарабаніў пальцамі па вакне і сказаў:

— Ты дома, Нохім?

— А, гэта ты, Барыс!— сказаў Нохім, абярнуўшыся да вакна.—Заходзь!

У хату зайшоў Барыс—сябар Нохіма, і прывітаўшыся запытаў:

— Ну, як ты жывеш? Чаму ня быў у клясе?

Нохім, крыху памаўчаўшы, адказаў:

— Што кляса? Добра табе хадзіць у клясу, калі дома ўсе здаравюсенькія, а мне, ведаеш сам, часу ані хвілінкі няма. Ты вось скажы мне, Барыс, што зрабіць, каб знайсьці яздакоў?

— Або я ведаю, хіба-ж я балагол?— зьдзівіўся Барыс.

— Ну, а што-б ты зрабіў, каб быў балагол?

— Я-б павесіў шыльду.

— А дзе шыльду ўзяць?

— Фарбы маеш?

— Маю.

— А паперку?

— Маю і паперку.

— Давай зробім шыльду!

Праз гадзіну на зьмятым аркушы паперы было напісана няроўнымі літарамі:

**„Тут жыве Нохім балагол“.**

Слова „балагол“ разьмалявалі чырвонымі літарамі, каб здалёк можна было яго заўважыць. На другі дзень Нохім прыклеіў сваю шыльду на браме. Пасьля гэтага ён перайшоў на другі бок вуліцы і доўга глядзеў на яе з вялікім задаваленьнем.

„Шыльда, адным словам, добрая“—парашыў ён і з вясёлым настроем пашоў у хату.

Аб тым, што прыклеіў на браме шыльду, Нохім сказаў матцы. Матка пакруціла галавою і заўважыла: „Ой, Нохім, Нохім! Ты ўсё блазнуеш“. Нохім нічога не сказаў і пашоў паіць каня. Ідучы назад, ён заўважыў каля брамы двух маладых мужчын. Адзін з іх, зьвяртаючыся да Нохіма, запытаў: „Скажы, хлапчук, ці Нохім балагол дома?“.

Нохім амаль не падскочыў ад радасьці і запытаў:

— А вам, таварышы, на станцыю?

— Так.

— Дык Нохім балагол гэта я.

Мужчыны засьмяяліся, мераючы яго з галавы да ног.

— Ты, такі карапуз—балагол?

— А чаму мне ня быць балаголам? Таварышы! я ўпэўнен і даю піонэрскае праўдзівае слова, што давязу вас да станцыі ня горш за старога балагола.

— А дзе-ж твой бацька?

— Ён хворы.

— Ага. Ну, добра, паедзем. А калі-ж ты будзеш гатоў?

— Хоць цяпер!

— Конь ня прыстане?

— Ніколі!

— Вось што, хлапчук: ты роўна праз тры гадзіны пад'едзеш да райвыканкому, мы там застановімся. Зразумеў?

— Вядома!

III.

— Ну, дык паедзем?—запытаўся Нохім, зайшоўшы ў той пакой, дзе знаходзіліся яго яздакі-студэнты.

— Мы гатовы.

— Можа занесьці на воз рэчы?—далікатна запытаў Нохім.

— Не, ня дужа шмат—самі занясем,—адказалі яму пасажыры.

Яздакі добра зьмясьціліся на высокім, мяккім сядзэньні; Нохім сеў упераду, тузануў лейцамі, нокнуў. Добра нахарчованы конь рушыў з месца, па бруку загрукацелі калёсы.

— Но-о! Но, даражэнькі!—ласкава зьвяртаўся да каня Нохім і конь трушком бег па шырокай пыльнай дарозе. А яздакі жартаўлі-пагражалі Нохіму:

— Ты, браце, памалу нас вязеш, і вось гадзіньнік паказвае, што мы спазьніліся,—цягнік ужо адышоў са станцыі. Цяпер мы табе нічога не заплацім. Што ты на гэта скажаш?

А Нохім на жарт адказаў жартам: „Ну, добра, тагды злазьце, я паеду назад, бо безкарысна-ж мне везьці вас далей.

Студэнты сьмяяліся і жартавалі далей:

— А вось мы дзесьці чулі, што хутка між мястэчкам і станцыяй будуць хадзіць аўтабусы, тады балаголам канец, бо ўсе яздакі будуць езьдзіць на аўтабусах. Што ты будзеш тады рабіць?

— Я да таго часу падрасту, дык буду шофэрам працаваць або зямлю ўрабляць буду,—адказаў доўга ня думаючы Нохім. Студэнты былі здаволены адказам Нохіма і прыдумвалі новыя жарты, больш дзеля таго, каб хутчэй і весялей праходзіў час.

А пятай гадзіне увечары прыехалі на станцыю. Усе балаголы прыпыніліся ля плоту і, прывязаўшы коняй, далі ім сена. Скора пасьля гэтага дзесь загукаў цягнік, і бліскаючы чырвонымі вачыма з шумам, грукатам і стогнам прыпыніўся на станцыі.

У невялікім зале станцыі, запоўненай к гэтаму часу яздакамі, распачалася мятусяніна. Людзі завіхаючыся пакідалі залю і імкнуліся сесьці ў вагоны, нясучы за сабою клумкі, торбачкі і кошыкі, другія вылазілі насустрэчу з вагонаў таксама з рэчамі і запаўнялі апусьцелую на момант залю. Балаголы шуганулі на спатканьне выходзіўшым у залю людзям, пільна прыстаючы да кожнага з ласкавымі завіхучымі пытаньнямі: „Вам у мястэчка? Паедзем? Браць рэчы на воз? Добра?“

Не пасьпеў Нохім яшчэ добра разглядзець усё тое, што тут рабілася, як заўважыў, што амаль ня ўсе балаголы ўжо мелі на сваіх вазох яздакоў, а Нохіму ня было каго везьці. Што-ж рабіць? Ехаць назад у легцы вельмі няпрыемна, ды сорамна. З выразам смутку і нездаваленьня ён хадзіў па

апусьцелай залі, час ад часу паглядаючы праз вялікае вакно на каня. Конь даядаў сена, і Нохім, заўважыўшы гэта, накіраваўся на двор, каб начапіць каню торбу з аўсом. Якраз у гэты момант адчыніліся высокія дзьверы, над якімі была прыклеена папера з надпісам: „Багажнае аддзяленьне“, і з пакою вышла дзяўчынка гадоў дванаццаці. Яна ласкава зірнула на Нохіма і запытала:

— Балаголы яшчэ ня хутка паедуць?

— Не, яшчэ. Яны харчуюць коняй. Паедуць праз паўгадзіны. А вам што? Куды трэба ехаць? можа ў мястэчка?—запытаўся Нохім.

— Так.

— Вы адны?

— Не, з мамаю.

— Значыць, я вас завязу? Я балагол.

— Добра. Мама атрымае рэчы, тады паедзем,—сказала ўпэўнена дзяўчынка і вярнулася ў пакой.

Нохім павесялеў. Са шчасьліваю ўсьмешкаю ён накіраваўся на двор. Даў каню авёс і, папраўляючы сядзэньне, напяваў матыў дрындушкі, якую заўсёды пелі вучні ў часе перапынку.

Едучы назад у мястэчка, Нохім адчуваў сябе задаволеным. Яздакі былі надзвычайна вясёлыя і далікатныя. Дзяўчынка, якая звалася Нюраю, увесь час да гэтага жыла ў горадзе і без перапынку гаварыла, знаёмячы Нохіма з гарадзкім жыцьцём і паведаміла аб тым, як у горадзе працуюць піонэры. Нохім у сваю чаргу казаў аб тым, колькі піонэраў у мястэчку, як яны працуюць, пры якіх умовах, і рупіўся даказаць, што мястэчковыя піонэры маюць больш працы, чымся гарадзкія. Нюра з гэтым не згаджалася і тым часам распачаліся гарачыя спрэчкі. І Нохім, і Нюра, вядучы між сабою жывыя гутаркі і спрэчкі, нават не заўважылі, як апынуліся ля самага заводу.

Нохім шчыра разьвітаўся з сваімі яздакамі, напомніў Нюры, каб заўтра ўвечары прышла ў піонэрскі клюб і паехаў у мястэчка. Матка ўжо даўно з нецярплівасьцю чакала Нохіма, а калі на вуліцы забразгалі калёсы, яна выбегла на двор і адчыніла браму.

— Ці здаровенькі ты, сыночак? Ды ці не здарылася з табою якое няшчасьце ў дарозе?—запытала ласкава матка.

— О, не, мама, усё добра! Падумайце толькі, я сёньня зарабіў на цэлы тыдзень грошай. Гэта-ж ня жарты!

Бацька падазваў Нохіма да сябе, сьціснуў яго руку і пацалаваў у лоб. Матка тым часам заве вячэраць. Нохім шчасьлівы, горды, здаволены ходзіць па пакоі, уяўляючы сабе, што ён ужо не маленькі, што з ім заўсёды будуць лічыцца, як з дарослым. Матка паставіла на стол страву і паклікала дзяцей.



...з пакою вышла дзяўчынка гадоў дванаццаці...

— Ідзі, Нохімка, ідзі, сынок, есьці, змарыўся дый прагаладаўся-ж ты!

Нохім садзіцца разам з усімі за стол, есьць і хваліць смачную капусту.

Цяпер ён упэўнены ў тым, што матка крычаць на яго і лаяцца ня будзе, бо-ж ён, Нохім, ня толькі ўмее працаваць і працуе ў атрадзе і школе, але ня горш справіцца і з працай, якая маецца ў сям'і.

**Я. Вір.**

# Як абсталяваць пля



Зімовы адпачынак далёка ня можа быць абмяжаваны памяшканьнямі нашых клюбаў. Тым больш, што клюбы найчасьцей не здавальняюць нават неабходных запатрабаваньняў з боку піонэраў і дзяцей: яны малыя, не абсталяваны, як трэба і г. д.

Усё гэта прымушае нашы атрады і школы падумаць аб зімовай пляцоўцы.

Абсталяваць зімовую пляцоўку зусім не цяжка. Большая частка працы па абсталяваньню можа быць зроблена самімі піонэрамі і школьнікамі.

Пляцоўкі могуць быць трох сартоў: атрадавая, групавая і цэнтральная. Розьніца між імі заключаецца толькі ў разьмеры. Калі, скажам, пляцоўка разьлічваецца на некалькі атрадаў (цэлы раён) яна, зразумела, павінна быць значна большай і багацейшай па абсталяваньню, чым пляцоўка разьлічаная на адзін які-небудзь атрад.

У гэтым артыкуле мы вызначым неабходныя элемэнты цэнтральнай пляцоўкі. Кожны атрад ці школа ў сувязі з сваімі патрэбамі можа значна спрашчаць гэты тып пляцоўкі.

Для зімовай пляцоўкі перш за ўсё трэба выбраць роўны кавалак зямлі. Пляцоўка павінна мець: гару для коўзаньня на санках, каток, лыжную станцыю і памяшканьне для воддыху, хаваньня адзежы і розных іншых рэчаў.

### Гара для коўзаньня.

Перш за ўсё шмат дзе можна скарыстаць натуральныя горы, схілы і ўзгоркі. Калі-ж натуральнай гары няма, трэба зрабіць тады штучную лёдавую або сьнегавую гару.

Сьнегавая гара робіцца з вялікіх сьнегавых шараў, якія добра ўкачваюцца і ўтвараюць гару. Калі-ж гэту сьнегавую гару ды паліваць вадой, тады атрымаем лёдавую гару. Хоць паліваць вадой варта і натуральную гару, ад гэтага гара робіцца сьлізейшай.

Штучную гару можна зрабіць таксама і з дрэва. Робіцца памост з дрэва з плоскай пляцоўкай і з нахіленым бокам—схілам. Усё гэта ўмацоўваецца на драўляных слупох. Памост засыпаецца сьнегам і заліваецца вадой. Нахіл гары павінен быць 15—20°. Дарожка, па якой будуць коўзацца з гары, павінна быць досыць вялікай.

Калі гара натуральная мае даволі круты схіл, дык варта зьменшыць яго, падсыпаўшы на дарогу сьнегу.

Схіл гары на раку або возера ня трэба рабіць. Ад гэтага могуць быць няшчасныя здарэньні. Дарожка павінна быць роўнай, бяз слупоў і дрэваў, аб што дзеці могуць выцяцца.

Дарогу з гары, а таксама і верхнюю пляцоўку гары, варта абмяжаваць насыпам са сьнегу або з дрэва, каб яздакі не маглі выпадкова скачвацца з гары.

Для ўзыходу на гару павінны быць асобныя дарожкі. Пад'ём іх не павінен быць крутым, каб дзеці ня трацілі шмат энэргіі і ня ўтамляліся. Вышыня гары павінна быць 6—8 мэтраў, даўжыня схілу 20—25 мэтраў, шырыня гары 3-4 мэтры.

### Каток.

Каток зьяўляецца абавязковай часткаю цэнтральнай пляцоўкі.

Каткі могуць быць натуральнымі і штучнымі. У якасьці натуральных каткоў могуць быць выкарыстаны вазёры, сажалкі і рэкі. Калі вада ў іх замярзае і лёд становіцца даволі тоўстым і моцным, тады абчышчаецца сьнег з лёду. Паверхня лёду павінна быць гладкай. Трэба ўсё-ж такі ўважна абгледзець гэты каток, бо на ім магчымы будуць правалы.

# цоўку адпачынку.

Штучны каток робіцца на сухім месцы. Для гэтага роўную пляцоўку, чыстую ад сьнегу, заліваюць вадой. Заліваюць вадой пляцоўку з рукава насоса і некалькі дзён падрад, каб вада магла роўна ва ўсіх месцах замярзаць. Калі лёд будзе мець 15—20 см. таўшчыні, з яго зьнімаюць усялякія шурпатасьці. Паверхня лёду павінна быць роўнай і гладкай.



Прылады для пабудовы і догляду за катком трэба мець наступныя: шуфлі для сьнегу, рыдлёўкі, мятла, рукаў для паліўкі і лепкі і інш.

Каток павінен мець агароду, толькі ня глухую, бо знойдзецца шмат тых, якія будуць цікавіцца катком і пажадаюць паглядзець на кіпучае яго жыцьцё.

У коле катка з краю коўзаюцца тыя, хто добра ўмее ўжо, сярэдзіна-ж звычайна запоўнена менш вопытнымі ў гэтай справе дзецьмі. Для маленькіх дзяцей пажадана-б вызначаць зусім асобнае ад іншых месца для коўзаньня.

### Лыжная станцыя.

Пры цэнтральнай пляцоўцы варта арганізаваць лыжную станцыю. На гэтай станцыі павінна быць некалькі пар дзіцячых лыж. На пляцоўцы жадаючыя будуць вучыцца хадзіць на лыжах, а пасьля змогуць выходзіць на іх і за пляцоўку, за горад, мястэчка ці вёску.

### Калаўрот.

Калаўрот робіцца зімой дзецьмі амаль усюды, дзе толькі ёсьць магчымасьць на гэта. Любімае коўзаньне на калаўротах можа быць выкарыстана для жадаючых і на пляцоўцы.



Для калаўрота патрэбна мець толькі драўляны слуп і дзьве або тры перакладзіны. Слуп умацоўваецца ў зямлі (укопваецца ў зямлю і, апрача гэтага, мае падпоркі з трох бакоў). Слуп вытаркае над паверхняй зямлі ня больш, як на аршын вышынёй. У сярэдзіне гэтага слупа на версе ўбіваецца жалезны шворан з вінтамі ў верхняй частцы. На шворан накладваюцца перакладзіны і замацоўваюцца гайкай на шворне, каб ня выскачылі, калі будуць круціцца. Гэтыя перакладзіны з канцоў трошкі прыгнуты, так, каб маглі спускацца па краёх да самага лёду. Даўжыня (радзіусы) перакладзін ад слупа да краю мае 3—5 аршын. Да канцоў перакладзін прымацоўваюцца санкі.

Калі круціць гэты калаўрот, санкі будуць з вялікім разгонам лётаць вакол слупа.

### Сьнег.

З сьнегу можна рабіць розныя ўзоры прадметаў, з якімі маюць справу дзеці ў школе, дома. Скажам, вывучаецца ў школе географія, або гісторыя людзей. Паасобныя мясцовасьці з іх характэрнасьцямі могуць быць зроблены, як узоры, з сьнегу, што наглядна замацуе ў памяці дзяцей папярэдняе вывучэньне іх.

Апрача ўсяго гэтага ня трэба забывацца і аб пэўных гігіенічных і мэдыцынскіх правілах пры ўсялякай гульні і працы на пляцоўцы. Трэба аб усім дагаварвацца з мясцовым доктарам, які сваімі парадамі павінен кіраваць адпачынкам дзяцей з пункту гледжаньня карысьці яго для здароўя таго ці іншага таварыша.

# Сярод піонэраў, вучняў і акцябрат.

## Цяпер не галодныя.

*(Харкаў, 18-я працоўная школ ).*



Нядаўна было ў школе так: выскачаць вучні ў часе пера-пынку, нападуць на таго, хто захапіў з дому хлеба ці што небудзь яшчэ:

— Гэй, Янка, мне, мне!..

— Янка, не забывайся пра нас!

— Дай хоць дробку! Хоць чутачку...

Прыходзіцца даваць, нічога не папішаш

А на ўроку настаўнік:

— Коэфіцыэнтам называецца лік, які паказвае суму... і г. д.

А ў жываце ў гэты час:—бур... бур... Есьці хочацца. Галодныя вучні. Ізноў перапынак. Ізноў тая-ж песенька:

— Дай, дай!

Але ўрэшце прышоў канец нашаму гору.

Цяпер у школе жывецца так:

— Організаваць гарачае сьнеданьне!—нікога супроць.

Пастанова не засталася на паперы. Жыва распачалі працу. У майстэрні толькі стружкі лётаюць. Шум... Сталы, лавы робяць...

Прышоў і доўгачаканы дзень. Чарга. Выдаюць талоны на малако, катлеты, чай.

У вучняў ухмылка на вуснах. Ды і як не радавацца—самі зрабілі. Пад'еўшаму і ўрок куды цікавейшым будзе.

Званок. На ўрок! Вучыцца трэба!

**В. Бычко.**

г. Харкаў (наш корэспандэнт).

---

## Праца барысаўскіх піонэраў.

*(Паводле матар'ялаў 2-й гар. конфэрэнцыі піонэраў).*

З цэлага шэрагу выступленьняў таварышоў на конфэрэнцыі выявілася, што піонэр-організацыя за апошні час значна ўзрасла, аб чым сьведчыла тая праца, якую правялі піонэры за летні час. Так, піонэрамі праведзена вялікая праца па дапамозе бяспрытульным дзецям: было сабрана на карысьць апошніх 250 руб.

Вялікая праца праароблена з акцябрятамі.

У наступны момант налічваецца 12 груп акцябрат, лікам 223 чал. Узмацнілася сувязь з замежнымі піонэрамі.

Але ня гледзючы на гэтыя дасягненьні, маюцца некаторыя недахопы.

Піонэры г. Барысава і да гэтага часу ня маюць свайго клюба, дзякуючы гэтаму праца піонэраў ня можа разгарнуцца так, як было-б пажадана.

Сярод піонэраў, асабліва стастарэйшага ўзросту, прыкмячаецца аслабленьне дысцыпліны; многія з піонэраў ня выконваюць сваіх абавязкаў.

Слаба праводзілася праца па шэфству і фізвыху.

Усе гэтыя недахопы ў далейшай працы організацыя павінна выжыць. Апрача гэтага конфэрэнцыя ставіла заданьнем, каб піонэры як на сваіх сходах, так і ў школе заўсёды былі прыкладам для другіх вучняў.

У сувязі з гэтым піонэры не павінны адставаць у вучобе, а імкнуцца як мага павялічыць сваю посьпяховасьць. Зьвернута таксама ўвага на тое, каб сярод піонэраў ня было політычна няпісьменых асоб, дзеля гэтага прапануецца ўзмацніць падпіску як на мясцовыя, так і цэнтральныя газэты.

Асаблівая ўвага была зьвернута на санітарыю і гігіену ў школе; дзеля гэтага санкомы шырэй павінны разьвярнуць сваю працу.

Піонэр 104 атраду

**Стронгін Хаім**



# Акцябраты за працай.



* *
*

*(Зембін).*

У пачатку гэтага году ў нашым мястэчку організаваліся дзьве групы акцябрат. Першыя месяцы гэтыя групы крыху працавалі, у групах налічвалася каля 50 акцябрат. Але з прычыны адсутнасьці добрага павадыра і практыкі ў працы, гурткі хутка распаліся.

Цяпер у нас маецца толькі адна групка. Але і ў гэтай групцы, трэба сказаць, праца кульгае, Зноў такі тлумачыцца гэта няўмела пастаўленай працай. Так, павадырамі наладжваюцца зачыненыя сходы акцябрат, што апошнім не падабаецца, часта мяняюць павадыроў.

Уся праца праходзіць без належнай жвавасьці і зацікаўленасьці з боку дзяцей.

Гэтым і тлумачыцца тое, што атрад не павялічваецца.

Я жадаў-бы, каб на гэтае пытаньне, аб працы з акцябратамі, адгукнуліся ўсе іншыя дапісчыкі часопісі і падзяліліся вопытам працы.

Піонэр 89 атраду
С. Хведаровіч.

* *
*

*(Менск).*

Праца акцябрат пры нашым 22 атрадзе за апошні час значна палепшылася

Група вырасла,—маецца 18 чалавек. Яна падзелена на два зьвяны. У кожным зьвяне маецца адзін піонэр-павадыр зьвяна і памоцнік—акцябронак.

На занятках праводзяцца гутаркі; таксама шмат увагі аддаецца гульням і сьпевам.

Правядзеньню практычнай працы перашкаджае адсутнасьць клюбу.

Але ня гледзячы на гэта, праца ўсё-ж такі праводзіцца. Так, напрыклад, 8 лістапада акцябраты зрабілі ранішнік, ахвяраваны Кастрычнікавай рэволюцыі. На ранішнік прышлі бацькі, піонэры-комсамольцы і акцябраты. Пасьля прывітаньняў ад бацькоў і піонэраў, акцябраты наладзілі інсцэніроўку. Разам з гэтым пры дапамозе піонэраў была выпушчана насьценная газэта: „Чырвоная Зорачка".

Праца акцябрат пашыраецца.
І. Сапір.

## За праўду—у турму!

### Рызінавыя палкі супроць дзяцей рабочых.

**У вапошнюю суботу ўладай Вюрцэнбэрга былі зроблены тэрорыстычныя выпады на дзяцей рабочых. „Дзень рабочых дзяцей", які павінен быў быць праведзеным комуністычнай партыяй у г. Штутгарце (Нямеччына), паліцыя разагнала.**

**Калі штутгарскія дзеці ў суботу сабраліся на дэмонстрацыю, паліцыя наладзіла сапраўдную аблаву на дзяцей з рэвольвэрамі і рызінавымі палкамі.**

**Сход, які меўся адбыцца ўвечары ў зачыненай залі, таксама быў забаронены, будынак быў заняты 40 паліцэйскімі.**

**Адзін 14-х гадовы хлопчык, які быў разам з дэл. ням. піонэраў у СССР і павінен быў расказаць аб сваёй паездцы, быў арыштаваны. Такія выпады паліцыі, якія зрабілі немагчымымі ўсялякія выступленьні дзяцей, выклікалі вялікія нараканьні да сябе з боку ўсіх прысутных. Поліцыя ня вышла з будынку да таго часу, пакуль у залі і на вуліцы нікога не засталося з дзяцей.**

**(З газэты нямецкай компартыі „Ротэ Фане" (Чырвоны Сьцяг) за 16 лістапада 1926 г.).**



Арыштаваны Вільлі Гэр.



# Вучні аб сваіх школах.

Перад намі некалькі допісаў саміх вучняў, якія малююць характэрныя рысы з жыцьця і працы школ. Ёсьць, бязумоўна, і адмоўныя і дадатныя рысы. Але больш усяго адмоўных. Гэта паказвае нам наколькі яшчэ слаба пастаўлена праца нашых школ. Праца разумецца ня толькі, як вывучэньне паасобных прадметаў, а й праца наогул грамадзкая, што павінна праводзіцца як у самой школе, так і па-за школай.

Наш дапішчык Калоднер (з г. Полацку) піша аб сваёй школе наступнае:

„Вось ужо тры месяцы як выбраны ў нас вучком, а працы ніякай у школе яго мы ня бачым. Гурткі і розныя камісіі сьпяць гэтак сама, як і вучком. У школе носіцца пыл, на падлозе заўсёды валяецца сьмецьце і г. д. Дысцыпліна самая дрэнная.

А між іншым шмат разоў напаміналі ўжо вучні свайму вучкому аб недахопах у яго працы. І ўсёроўна нічога не дапамагае".

З такімі вучкомамі, бязумоўна, далёка ў працы не заедзеш. Але-ж, як відаць, ня толькі вінаватыя ў гэтым нашы падобныя вучкомы— вінаваты таксама ня менш і іншыя школьныя організацыі, якія падначальваюцца вучкому і якія яму не падначальваюцца. Відаць, што няма агульнай зацікаўленасьці працаю. Таварышы з форпоста і Школьнага Савету забываюцца аб сваіх простых абавязках, як і забываюцца аб іх паасобныя гурткі і камісіі, а ў іх ліку і вучкомы. А выніkі ад такой пастаноўкі працы, як бачыце, ня зусім нас радуюць.

Як-бы ў дадатак да гэтага дабаўляе нам тав. С. М. у сваёй корэспандэнцыі:

„Сьцены нашай школы ўсе чыста скрэйзаны алоўкамі рознага колеру. На сьценах вучні (у большасьці хлопцы) практыкуюцца пісаць і „пісьмовыя працы" і „вершы" і „задачы" і ўсё, усё, што каму ня прыдзе ў галаву. Гэтак-жа сама шмат даводзіцца цярпець ад вучняў і скамейкам. Кожная скамейка—гэта асаблівага роду сшытак, дзе запісваецца і выразаецца нажамі „гісторыя" кожнага, хто на ёй сядзеў. Ня гледзячы на гэткае хуліганства шмат якіх вучняў, ніякіх мерапрыемстваў з боку адміністрацыі і вучнёўскага самакіраваньня для зьнішчэньня яго не праводзіцца".

Даволі сумны малюнак прайшоў перад намі ў зьмесьце гэтых двох допісаў. І тым ня менш, тут апісваецца толькі тое, як трымаюць сябе вучні ў некаторых школах і як выконваюць свае абавязкі школьныя організацыі. Бязумоўна, можна сьмела дадаць да гэтага, што і пасьпяховасьць у вучобе ў такіх школах ня можа стаяць высока.

Часамі дрэнна вядуць сябе ня толькі вучні наогул, але і піонэры і іх форпост. Форпост, які-б павінен, у падобнага роду школах, быць першым організатарам добрай і карыснай працы і добрага прыкладу, сам не адстае ад такіх вучкомаў. Аб такім форпосьце піша нам А. К. (г. Полацак).

„За $2^1/_2$ месяцы існаваньня форпосту быў праведзены толькі адзін сход піонэраў. Працы сярод неорганізаваных ніякай не вядзецца.

Савет форпосту ніколі ня зьбіраецца, каб абгаварыць тыя ці іншыя датычныя яго пытаньні"...

Як бачыце, нават і форпосты ня ўсюды яшчэ запамяталі цьвёрда свае задачы.

Але поруч з такой працай некаторых нашых школ, маюцца школы зусім іншага характару. Гэтыя апошнія добра працуюць, добра паставілі справу з навучаньнем. Праца піонэраў і вучняў праводзіцца ўзгоднена, разам, абдуманым і абмяркаваным парадкам.






Прыклад такой працы адзначаны ў допісе Варшала, М. (м. Старобін).

„Школа разам з піонэрскім атрадам ставіць спэктаклі, праводзіць сходы і ўсю іншую працу. Ніякіх перабояў у працы атраду і школы няма. Працаю здаволены як вучні, так і піонэры".

Бязумоўна, шмат якія нашы школы павінны сур'ёзна падумаць аб сваіх недахопах і чым хутчэй зьнішчыць іх.

# За паляпшэньне працы школьных гурткоў.

Праца ў гуртках праводзіцца ва ўсіх школах, але ня ўсюды гэтыя гурткі добра працуюць. Прычын, якія перашкаджаюць добрай працы, маецца шмат: адсутнасьць належных кіраўнікоў, не заўсёды маюцца добрыя памяшканьні і г. д. Да гэтага-ж яшчэ трэба дадаць і тое, што пытаньне аб працы школьных гурткоў зьяўляецца наогул слаба распрацаваным. Ніякіх сталых праграмаў яны ня маюць. У сувязі з гэтым школе даецца магчымасьць арганізаваць працу гурткоў так, як яна лічыць яе больш карыснай і лепшай.

Тут мы хочам спыніцца толькі на тым, як можна арганізаваць працу ў такіх гуртках так, каб яна была цікавай і карыснай.

Гурткі ў школе арганізуе вучком, бо яму больш вядома, што вучняў больш усяго цікавіць і які гурток патрэбна арганізаваць.



Вопыт працы паказвае, што самымі пашыранымі гурткамі зьяўляюцца: палітычны, драматычны і літаратурны. Менш усяго ў нашых школах пашыраны гурткі ручное працы, як пераплётны і вязальны (для дзяўчат). А між іншым, не пашкодзіла-б кожнай школе мець такія гурткі. Карысьць ад іх двваякая: працоўныя навыкі для ўдзельнікаў гуртка і карысьць школе матар'яльная ад пераплятаньня кніжак і шыцьця бялізны (для фізкультуры ці інш).

Варстат для параплятаньня кніжак могуць зрабіць самі вучні. Такім чынам, перашкод у гэтым ня можа быць. Жадаючых-жа працаваць у такіх гуртках знойдзецца, бязумоўна, шмат. Аб ручной працы асабліва шмат гавораць у апошні час самі бацькі на школьных сходах.

На палітгуртках лепш усяго і цікавей разглядаць бягучыя пытаньні палітычнага жыцьця. Для гэтага удзельнікі гуртка выкарыстоўваюць матар'ял з газэт (Чырвоная зьмена", „Бел. вёска"). Паасобнымі сябрамі робяцца на сходзе гуртка палітагляды з жыцьця якое небудзь краіны. Даклад таго ці іншага таварыша дасьць матар'ял усім іншым для сталага абгаварэньня пастаўленага пытаньня, пасьля чаго складаецца агульнымі сіламі кароткі палітагляд.

Літаратурны гурток больш усяго знаёміцца з апошнімі творамі цяперашніх пісьменьнікаў, якія не ўваходзяць у вывучэньне па школьнай праграме. Часамі самі ўдзельнікі гуртка пішуць уласныя творы, якія ў першую чаргу зачытваюцца і разглядаюцца на сходзе гуртка. Гурток можа арганізаваць выданьне сваёй мастацкай рукапіснай часопісі.

Перш чым арганізаваць той ці іншы гурток, трэба стала абмяркаваць наступныя пытаньні: 1) ці маюцца вучні, якія цікавяцца гэтай галіной працы; 2) ці знойдзецца належны кіраўнік для гуртка і 3) ці маецца памяшканьне.

Апрача гэтага, пры залічэньні ў гурток трэба мець на увазе узрост вучня. З вопыту працы выясьнілася, што ў гурток можна залічаць вучняў пачынаючы з пятай групы, а для малодшага ўзросту трэба арганізоўваць асобныя гурткі.

Як ужо і зазначалася вышэй, ніякіх агульных пляна для працы гурткоў няма. Пляны працы ў кожным гуртку складаюцца самім кіраўніком гуртка разам з старастам, пасьля чаго зачытваюцца на сходзе гуртка. Тыя пытаньні, якія выклікаюць цікавасьць з боку ўдзельнікаў трэба і ўнесьці ў плян працы.

У гуртку павінна выявіцца актыўнасьць кожнага ўдзельніка, павінны быць вырашаны ўсе пытаньні, якія выплываюць у працэсе працы гуртка. Гурток не павінен быць вялікім; ён мае ня больш 20—25 чалавек.

У пачатку другога паўгодзьдзя працы школ вучкомам трэба праверыць, ці добра працуюць іх гурткі ў іх школе, што перашкаджае працы, ці патрэбны новыя гурткі, якія пастараюцца арганізаваць пакуль яшчэ ня позна.

**Настаўніца.**






Апавяданьне

**Янкі Маўра.**

Малюнкі

А. ТЫЧЫНЫ.

(*Працяг* *).

Шум і трэск паступова сьцішаўся. Жывёлы прайшлі. Людзі йзноў палезьлі на свае месца. Добра яшчэ, што ніхто не пацярпеў.

Супакоіліся.

Але на захадзе зноў пачало грукацець. Гэта ўжо набліжалася навальніца. Усё яскравей бліскала маланка, усё мацней грымеў гром, і ўрэшце ён так грукнуў над галавой, што ўсе людзі пасыпаліся на зямлю. Сьледам за тым пашоў залівны дождж.

Можна ўявіць сабе, што павінны былі перажыць нашы людзі. Вядома, яны і да гэтага часу сустракаліся з такім зьявішчам, але зразумець, нават прывыкнуць яны пэўна не маглі і кожны раз палохаліся йзноў.

Гэты бляск, гэты грукат, гэта таемная сіла, там дзесьці высока, на небе,—выклікалі ў іх такі страх, які глыбока мог ужо западаць у пачуцьцё баязьні перад невядомай вялікай сілай, ад гэтага потым нарадзілася шмат розных рэлігіяў...

Дождж ішоў усю ноч. Людзі туліліся пад дрэвам, дрыжалі ад холаду, і, здавалася, ніколі ня будзе канца гэтай цемры.

Так пачынаў свае жыцьцё чалавек.

Той чалавек, які цяпер лётае ў паветры, плавае пад вадой, перагаварваецца праз усю зямлю з другімі людзьмі, кіруе прыродай...

Той, які сваім розумам і працай дайшоў да ўсяго таго, што мы маем...

---

***) Зьмест папярэдняй часткі апавяданьня.**

Царства расьліннасьці і зьвяроў. Зьяўленьне на палянцы гуртка невядомых істот, якія зусім не падобны былі ні да зьвяроў, ні да малпаў. Гэта былі першыя людзі... Чым яны розьніліся ад іншых жывёлаў і ад сучаснага чалавека. Як жылі і карміліся гэтыя людзі. Падвячорак з пацука... Начлег на дубе. Неспадзяваны перапалох.

II.

Дождж перастаў толькі раніцаю.

З якой радасьцю сустрэлі нашы людзі першыя праменьні сонца! Нават іх морды неяк скрывіліся ад прыемнасьці. Гэта былі першыя пачаткі, першыя спробы ўсьміхнуцца. Але для нас гэта было-б нават брыдка глядзець...

Сонца падымалася, станавілася цяплей. Людзі павылазілі на сонца, грэліся, сушыліся, некаторыя пачалі засыпаць. Але голад быў важней за сон. Трэба было ісьці далей.

Павадыр крыкнуў і пашоў наперад, у лес. За ім пацягнуліся ўсе астатнія.

Быццам чарада якіх-небудзь жывёлаў, пасоўваліся яны наперад, то разыходзячыся, то зноў сходзячыся. Ніякіх галасоў не раздавалася сярод іх. Чутно толькі было, як шуршэлі ды трашчалі пад нагамі сухія галіны.

Кожны быў заняты сваёй справай: як-бы гэта знайсьці што-небудзь такое, каб можна было зьесьці.

Часам сьпераду раздаваўся трывожны крык павадыра. Тады ўсе зьбіваліся ў гурток і азіраліся, адкуль пагражае небясьпека. Яны нават не заўсёды маглі паказаць яе рукою. Яны і гэтага ня ўмелі рабіць.

І зноў трэба адзначыць, што гэта, здаецца такая простая рэч, таксама дарма не даецца і патрабуе шмат часу, вопыту і розуму.

Што-б мы ўсе сказалі, калі-б дзе-небудзь убачылі, як, напрыклад, сабака паказваў-бы лапай, што, вось, тамака бяжыць заяц. Мы гэта палічылі-б за такі цуд, якога яшчэ сьвет ня бачыў.

І запраўды яно так. Значыцца, мы і ня можам патрабаваць ад нашых першых лю-

дзей, каб яны адразу маглі перагаварвацца рукамі.

Досыць ужо й таго, што яны калі-ні-калі пачыналі так рабіць. Убачыўшы, напрыклад, плод на дрэве, чалавек крыкне і, сам таго ня ведаючы, працягне руку ў гэтым напрамку. Але тут ні ў якім разе нельга сказаць, што ён хацеў паказаць рукою.

Альбо, убачыўшы блізка каля сябе ворага, ён ад страху працягне наперад руку. Але другі раз, калі небясьпека будзе далей, ён ужо не здагадаецца паказаць на яе.

Толькі павадыр ужываў гэта часьцей. Яго пасада была ўжо такая, што часьцей зьяўлялася неабходнасьць як-небудзь папярэдзіць сваіх таварышоў. Але і ён, пакуль што, рабіў гэта бесьсьвядома, як калі здарыцца.

Лес рабіўся ўсё гусьцей і цямней. Дрэвы падымаліся так высока, што іх верхавіны ледзь былі відны і так густа перапляталіся, што не прапускалі сьвету сонца. Сярод белага дня ўнізе быў змрок, як быццам увечары.

Зямля была чорная, вільготная. Нават трава не расла бяз сьвету.

Людзі мімаволі прыбавілі шагу, каб хутчэй выйсьці з гэтага няпрытульнага месца.

Ужо даўно адзін стары дзядуля напружваў усе свае сілы, каб не астацца ад чарады. Увесь час ён цягнуўся з-заду. А цяпер яму прышлося зусім цяжка. Людзі адыходзілі ўсё далей і далей.

Стары спатыкаўся, падаў, зноў падымаўся. Ногі дрыжалі, падкошваліся. Але адлегласьць да сваіх няўхільна павялічвалася ды павялічвалася.

Ён пачаў бегчы, але зараз-жа паваліўся на зямлю.

Вось ужо толькі астатнія фігуры людзей далёка мільгаюць сярод дрэў.

Жудасная цішыня абхапіла старога. Тупы жах напоўніў яго мазгі. Ён не разумеў, што такое робіцца, але ўсёй сваёй істотай адчуваў нешта страшнае.

Ён выдаў хрыплы, але слабы гук. Рэха адазвалася—і зноў усё ціха.

Зноў падняўся, пабег—і зноў паваліўся. Ногі млелі, увесь ён засопся. Так хацелася хоць-бы крыху адпачыць, але ён адчувае, што так нельга, што, ня гледзячы ні на што, трэба йсьці наперад, да сваіх.

Зноў падымаўся, зноў падаў, пакуль ужо зусім ня мог падняцца.

Тады ён пачаў паўзьці... Вочы яго былі накіраваны ў той бок, куды пашлі яго сыны і ўнукі. Ужо даўно нікога ня было відаць, а ён усё поўз, поўз наперад...

Стары, малпападобны твар гэтае няшчаснае істоты тросься, крывіўся, вочы зрабіліся вільготнымі, але... і плакаць ён яшчэ ня мог. Нічога яшчэ яны ня ўмелі.

Але вось перад яго памутнеўшымі вачыма заблішчалі якіясьці другія вочы. Блíснулі з аднаго, з другога боку, усё бліжэй, бліжэй... Вось ужо чуецца лёскат зубоў і глухое бурчаньне... Потым страшэнная боль у плячох—і ўсё пацямнела...


Тады ён пачаў паўзьці...

А яго сыны і ўнукі тымчасам усё йшлі ды йшлі наперад і, нават, не заўважвалі, што кагосьці не хапае з іх чарады...

Праз некаторы час яны падышлі да балотнай нізіны, за якой ішла ўжо больш высокая і сухая мясцовасьць. Трэба толькі было перайсьці на той бок.

Але гэта можна было зрабіць толькі ў адным месцы, дзе якраз стаяла чарада нейкіх зьвяроў, нязграбных з доўгай галавой, стаячымі вушамі, маленькімі вочкамі і з падоўжанай верхняй губай. Іх можна было-б палічыць або за сьвіней, або за маленькіх сланоў.

Гэта былі тапіры, якія цяпер захаваліся толькі яшчэ ў паўднёвай Амэрыцы.

Людзі спыніліся і ня ведалі, што рабіць. Вопыт і пачуцьцё ім падказвалі, што гэта ціхамірныя жывёлы, а не драпежныя. Але хто іх ведае, што яны там сабе думаюць.

Пастаялі, паглядзелі: здаецца нічога. Тапіры стаяць сабе спакойна і, нават, не звярачваюць увагі на людзей. Можна спробаваць.

Асьцярожна пасунуліся наперад, вось ужо падышлі зусім блізка. Тыя стаяць сабе, з цікавасьцю паглядваюць на людзей,—а самі ані з месца.

Нічога ня зробіш, прышлося абмінаць іх. А дзеля гэтага патрэбна было ўлезьці ў балота блізка што па шыю.

Кожнай „сьвіньні“ павінен быў чалавек даваць дарогу, ды яшчэ радавацца, што яго ня чапаюць.

Толькі што яны перабраліся на той бераг, як з боку нешта затрашчала і з гушчары проста на іх выбег насарог *). Ён быў раззлаваны, цяжка дыхаў; у баку была глыбокая рана, адкуль бегла кроў. Адразу відаць было, што ён толькі што вырваўся з нейкай бойкі. А ў такіх выпадках ён нападае на ўсякага, каго ні сустрэне.

Не пасьпелі нашы людзі апамятацца, як насарог, схіліўшы галаву, кінуўся на іх. Раздаўся дзікі крык, усе кінуліся, хто куды. Большасьць разам апынулася на дрэвах.

Але адна жанчына з дзіцём не пасьпела...

Насарог падхапіў яе сваім страшэнным рогам і так кінуў яе праз сябе, што яна адляцела далёка і стукнулася яшчэ галавой аб дрэва. Дзіцянё адарвалася ад яе і ўпала перад зьверам. Насарог растаптаў яго нагою і пабег далей.

Калі ўсё сьціхла, людзі зьлезлі з дрэў і абступілі няшчасную жанчыну. Разумеецца, яна была ўжо мёртвая. Бок яе быў зусім разадраны і адтуль вылазілі кішкі. Галава ўся скрываўлена.

Напружана глядзелі людзі на гэту ахвяру, краталі яе, варочалі галаву, рукі. Такая сьмерць на іх вачох, відаць, адбілася на іх мазгох; відаць было, што яны нешта перажывалі, адчувалі, думалі..

Гэта быў для іх, так сказаць, штурх, які прымусіў іх больш папрацаваць пачуцьцём і мазгамі. З гэтага боку і няшчасны выпадак быў для іх карысны.

Але такая нязвычная ўнутраная праца не магла ў іх доўга цягнуцца. Хутка яны зноў сталі абыякімі да ахвяры, адвярнуліся і зараз-жа забыліся аб здарэньні.

Нават аб дзіцяці ніхто не пацікавіўся, затым толькі, што яно ляжала далей і ня трапіла ім на вочы.

Лес парадзеў, і нашы падарожнікі вышлі на палянку ля крыніцы. Тутака зрабілі прывал. Ніхто ня ведаў, што з іх гуртка траіх ужо не хапае.

*) Насарогі цяпер маюцца толькі ў сярэдняй Амэрыцы і ў паўднёвай Азіі.


Насарог падхапіў яе сваім страшэнным рогам...

Адны селі адпачываць, другія зноў пашлі „пасьвіцца“, трэція падышлі да крыніцы напіцца. Там яны лажыліся на жывот і цягнулі ваду. Наогул яны баяліся вады і толькі якінебудзь надзвычайны выпадак мог прымусіць іх лезьці ў яе.

Тым часам павадыр з адным з сваіх таварышоў (будзем зваць яго Краг), адышлі далей у бок, каб пасачыць якой здабычы.

З правага боку, бліжэй да крыніцы, быў густы зарасьнік, з левага—рэдкі лес. У адным месцы яны заўважылі, што праз зарасьнік, у напрамку да крыніцы, ідзе сьцежка. Відаць было, што яе зрабілі зьвяры, якім трэба было хадзіць на вадапой.

Быццам мімаволі яны спыніліся на гэтым месцы і сталі азірацца, чагосьці чакаючы. Пачуцьцё ім падказвала, што тут хтонебудзь павінен прайсьці.

І, запраўды, праз некаторы час яны заўважылі, што ў лесе здалёку набліжаюцца нейкія жывёлы, падобныя да аленяў, толькі з маленькімі рагамі. Яны відавочна накіроўваліся ў гэты бок.

Павадыр схіліўся, настаражыўся. Потым штурхануў за руку свайго таварыша, і абодва яны схаваліся ў кустох. Прыціхлі і сталі чакаць,

Жывёлы набліжаліся спакойна, але каля кустоў пярэдні раптам спыніўся і да чагосьці стаў прыслухоўвацца. Паляўнічыя пачалі ўжо баяцца, што яны ўцякуць.

На шчасьце, вецярок падзьмуў у другі бок. Алені больш нічога не адчувалі і, супакоіўшыся, пашлі па сьцежцы.

Зараз-жа павадыр кінуўся да пярэдняга на шыю, з страшэннай сілай сьціснуў рукі і нават яшчэ ўчапіўся за шыю зубамі. Алень скокнуў у бок, але чалавек крэпка вісеў на шыі. Зараз падскочыў Краг, ухапіў аленя за галаву і стаў яе круціць. Пальцы яго разадралі храпу, выціснулі вока ў аленя—і абодва чалавекі пакаціліся з аленям на зямлю, але ні на адзін момант не адпускалі сваіх рук.

Алень абараняўся з астатняй моцы, кусаўся, біў нагамі і нават параніў павадыру бок капытом, але нішто не памагло. Яны ўсё болей і болей задзіралі галаву ўверх і

разам з тым, круцілі ў бок. Урэшце косьці шыі хруснулі, рухі аленя сталі слабець—і ён сьціх...

Тады абодва падняліся, выпрасталіся і з грудзей іх вырваўся зычны крык перамогі.

На гэты крык зьбегліся ўсе другія і, угледзіўшы такую багатую здабычу, пачалі скакаць і крычаць ад радасьці. Твары іхнія страшна корчыліся; гэта азначала іх радасьць і сьмех.



Кожнай „сьвіньні“ павінен быў чалавек даваць дарогу...

Нялёгка было голымі рукамі забіць аленя, але і ня лягчэй было разабраць яго. Каля аленя пачалася страшэнная вазьня. Кожны стараўся як найхутчэй ухапіць сабе кавалак, але... як гэта зрабіць?

Адны пробавалі разадраць скуру кепцямі, другія зубамі, трэція стараліся адламаць ногі. Яны штурхаліся, агрызаліся і здавалася, што, вось-вось, не на жарт паб'юцца.

Патроху ў некалькіх мясцох яны зрабілі дзіркі зубамі. Потым з вялікім трудом дралі рукамі. Скура была моцная, мокрая, вырывалася з рук, і людзі, што цягнулі яе, часта ляцелі ўверх нагамі. Тады зноў пашыралі дзірку зубамі.

Але справа ня стала лягчэй і тады, калі яны дабраліся да мяса. Усёроўна адрываць яго рукамі было вельмі цяжка. Усёроўна прыходзілася больш працаваць зубамі.

Жудасна было глядзець на „баль“ гэтых істотаў. У гэты момант, здаецца, зьнікла і тое нямногае чалавечае, што ў іх было. Дзікі погляд, выскаленыя зубы, скрываўленыя морды і рукі і застыўшыя кавалкі крыві на шэрсьці...

Рэдка ім, бязбройным, здаралася такое шчасьце, і яны стараліся спагнаць тыя галодныя дні, якія ў іх былі так часта.

Вось патроху ўсе наеліся, супакоіліся. І разам з тым, здаецца, зьмяніўся і іх выгляд. І погляд, і выраз, і кожны рух сталі іншымі. Зноў стала відаць, што гэта ўсё-ж такі людзі.

І зусім зразумела: нават і ў наш час галодныя людзі робяцца падобнымі да зьвяроў. Чаго-ж хацець ад гэтых?

Толькі вось крывавыя твары і наогул кроў на целе рабіла няпрыемнае ўражаньне. Гэта нават адчувала і адна дзяўчына, гадоў пятнаццаці, крыху зграбнейшая за другіх. Яна ўвесь час старалася адцерці гэтую кроў. Потым, падышоўшы да крыніцы напіцца, яна неяк папробавала церці мокрай рукой і зараз-жа заўважыла, што кроў лягчэй адстае. Тады яна яшчэ і яшчэ стала церці і такім чынам абчысьціла сабе рукі, грудзі, але... твар яна не дамысьлілася абмыць, бо ня бачыла яго. І наша першая красуня, хоць і стала чысьцейшай за другіх, але так і засталася з крывавым тварам.

Гэты дзень яны скончылі зусім „пачалавечаму“. Яны былі пад'еўшы і спакойныя, што рэдка здаралася ў іх жыцьці. Яны не адчувалі цяпер ні холаду, ні голаду, ня бачылі небясьпекі. Ім ня трэба было ўжо думаць аб ежы, яны ўжо мелі вольны час.

І цяпер яны ўжо не сядзелі так моўчкі і сумна, як раней. Яны хадзілі і паглядалі то за тым, то за другім. Ад часу да часу яны зварачаліся адзін да другога з нейкім гукам, нібыта словам.

Праўда, не заўсёды сусед разумеў, што хацеў выказаць яго таварыш, але гэта не вялікая бяда. Добра ўжо тое, што яны перакідваліся гукамі, што пробавалі выказаць сваё ўражаньне.

Вось блізка над галавой з шумам праляцеў бусел. Чалавек паглядзеў і ў яго неяк сам праз сабе вырваўся гук—„жу“. Сусед яго таксама заўважыў птушку і таксама мімаволі сказаў „жу“. І вось яны абодва ўжо зразумелі адзін другога, абодва ведаюць, што гэта „жу“ азначае, вось, гэту лятучую рэч. А калі пасьля гэтага праляціць нейкі шпак, то яны таксама могуць сказаць „жу“.

Праўда, можа ў гэты самы час другія два чалавекі выдалі другі гук, другое „слова“, можа яны сказалі „гу“. Але гэта ня шкодзіць, бо ўсёроўна і ў тых, і другіх

гэтае слова зараз-жа выляціць з галавы, і трэці раз яны дадуць ужо зусім новае слова.

Адзін, другі, трэці, дзесяты раз так здарыцца, але ўрэшце ўсё-ж такі застанецца нейкае слова, якое ўхопяць ужо больш людзей, якое потым будуць усе ведаць. Гэтае слова будзе ў іх азначаць наогул усё тое, што ляціць.

Гэта была вельмі вялікая „культурная праца“. Каб набыць адно-два словы, патрэбны былі цэлыя гады. Бо ўвесь час яны павінны былі думаць толькі аб тым, як пражыць ці голад, ці бяду.

Праўда, гэтая бяда таксама была карыснай, бо прымушала іх мазгі напружвацца, каб знайсьці выйсьце з бяды. Але-ж усё павінна быць умеру.

Тым часам падыходзіў вечар, ціхі, мяккі. Можа першы раз у сваім жыцьці нашы людзі маглі зьвярнуць увагу на прыгожасьць прыроды: і на ружовы колер захаду, і на стройныя кіпарысы, якія выразна адзначаліся пры сьвеце, і на першыя зоркі, якія адбіваліся ў вадзе.


... з грудзей іх вырваўся зычны крык перамогі.

Вось паказаўся месяц. Ён таксама здаваўся сёньня здаволенаму чалавеку нейкім ласкавым і добрым. Людзі сачылі за ім вачыма, і думка іх, якой-бы яна яшчэ ня была, усё-ж такі падымалася крыху вышэй і далей ад штодзённых клопатаў. У глыбіні душы нараджалася больш высокае ч а л а в е ч а е пачуцьцё.

Адным словам, увесь гэты добры і спакойны вечар зьяўляўся ўжо для іх, так сказаць, практыкаваньнем, маленькім крокам да будучага чалавека.

Пад такім уражаньнем яны сёньня і на дрэва ня лезьлі, а таксама паляглі спаць тут-жа, пад кустамі, на сухім беразе крыніцы.

Ня ведалі яны, што ня доўга будзе для іх такое шчасьце...

(Працяг будзе).

**Янка Маўр.**






**„Піонэрскі Сьпеўнік“.** Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Стар. 52, кошт 25 кап.

Толькі што выданы **„Піонэрскі Сьпеўнік“,** зьяўляецца аднэй з шэрагу тых кніжак, якія зараз друкуюцца на Беларусі для дзяцей. Запатрабаваньні нашых атрадаў і ўсіх дзяцей наогул выклікалі адпаведныя ўстановы да організацыі выданьня літаратуры для дзяцей. Хоць трэба сказаць, што справа гэта ў нашых умовах досыць зацягнулася ў параўнаньні з агульным разьвіцьцём і пашырэньнем беларускае кніжкі.




Да гэтага часу з дзіцячай літаратуры маем толькі 3-4 кніжкі, ды бібліотэчку з 15 кніжак, выданую ў Калініншчыне. Аднакжа згодна апошніх вестак Дзяржаўнага Выдавецтва, ім распачата справа па выданьню досыць шырока.

Разглядаемая кніжка „Піонэрскі Сьпеўнік“ мае ў сабе 3 аддзелы: песьні ня вядомыя матывы, колектыўныя дэклямацыі і частушкі. Зборнічак такім чынам мае на мэце больш практычны характар. Ён разлічаны на самага шырокага спажыўца.

Ні адзін вечар, які праводзяць атрады, школы, ня можа, бязумоўна, абыйсьціся бяз песень і дэклямацый. Вось гэту неабходнасьць і дае ў сабе зборнічак. Усе песьні напісаны на тэмы з сучаснага жыцьця дзяцей. Шмат з іх друкаваліся ўжо ў часопісях і розных выданьнях. Маюцца таксама й пераклады. З гэтага боку каштоўным зьяўляецца тое, што зборнічак якраз і злучае ў сабе ўсё лепшае і неабходнае, што могуць выкарыстаць нашы і організацыі і ўсе дзеці для сваіх сьпеваў і дэклямацый.

Як адмоўны бок, варта адзначыць нязначную колькасьць песен, напісаных на мотыў шырока вядомых усім народных песен.

У вогуле зборнічак робіць добрае ўражаньне. Кожны піонэр і вучань павінны пастарацца дастаць для сябе гэты сьпеўнік. Скарыстаць у ім маецца што. **А. Ч.**

---

## Як працаваць з кнігай.



**Чытаньне не павінна шкодзіць кнізе.**

1. Калі бярэш кніжку, то не загінай яе ражкоў, а кладзі між старонак закладкі.
2. Ня згортвай кнігі ў трубку, не кладзі яе ў кішэню; не кладзі за пояс—памнецца.
3. Ня вынось кніжку на вуліцу, не завярцеўшы яе ў што небудзь.
4. Не пакідай на сонцы—пажаўцее, папсуецца вокладка.
5. Не бяры кніжку бруднымі пальцамі.
6. Не абсьлінівай пальцы, калі перагортваеш (перагортвай з верхняга кутка—карысьней і лягчэй). Не рабі ў кнізе ніякіх заметак.

**Чытаньне не павінна шкодзіць здароўю.**

— Ня чытай да ўтомы. Ня чытай перад сном занадта цікавых прыгодаў, здарэньняў,— доўга не засьнеш.

Ня раіцца чытаць пасьля яды—гэта шкодна дзеля здароўя і ўвага да чытанага робіцца горшай.

Ня чытай згорбіўшыся над кнігай—шкодна для грудзей.

Ня чытай, калі баляць вочы. Старайся, каб сьвет быў з левага боку, а калі зьверху—каб ня быў занадта яркі; ня чытай пры дрэнным агні, або ў цёмным пакоі—станеш блізарукім.

**Чытай толькі неабходныя кнігі.**

1. Памятай—кніг вельмі многа, усіх прачытаць не пасьпееш,—*чытай толькі неабходныя кнігі*. Ня



Умей абыходзіцца з сваёй кнігай.

чытай праз меру, зморышся і менш запамятаеш, горш зразумееш.

2. Ня глытай кніг.—Чым болей старaешся прачытаць у гадзіну, ты меней запамятаеш, тым горш зразумееш.

3. Грунтоўнае правіла—чытаць уважліва не сьпяшаючыся: ня імкніся прачытаць як мага болей кніг. Ляпей прачытай другі і трэці раз добрую, хоць і цяжкую, кнігу. Лепш падумай над гэтай кнігай, пагутары аб ёй з таварышамі.



Не сядзі за кнігай сагнуўшыся.

Усе гэтыя правілы яскравы і зразумелы кожнаму піонэру.



Гэтыя правілы можна перапісаць або зрабіць з іх плякаты і павесіць у чытальні, каб кожны іх мог прачытаць.

# Чаму куры рыюцца ў пяску?

Нам часта ўлетку даводзілася наглядаць, як куры рыюцца ў пяску. У іх узьнімаюцца крыльлі, і яны стараюцца як можна больш абсыпаць сябе пяском. Калі яны ўстаюць, дык пачынаюць ацярушвацца, і пыл у вялікай колькасьці зьлятае з іх. З гэтага відаць, што пыл пападае пад самыя пер'я. Мы зацікавіліся гэтым пытаньнем і парышылі яго дасьледваць.

Аднаго разу мы злавілі курыцу і, падняўшы пер'я, пачалі ўважна усё разглядваць. Мы заўважылі паразыта, падобнага да вошай. Значыцца, выходзіць што куры пры дапамозе пылу збаўляюцца ад вошай, але чаму вошы гэтак баяцца пылу?—пытаньне для нас было незразумелым. Тады мы парашылі спытацца аб гэтым у вопытнага чалавека.



Выясьнілася, што гэта былі ня вошы, а пухаі пераеды. Розьняцца яны ад вошай тым, што яны грызуць яду, а вошы могуць толькі ссаць.

Далей нам удалося даведацца, што гэтыя пераеды дыхаюць пры дапамозе асаблівых шчылінкаў, што знаходзяцца па баках іх цела. Калі ў гэтыя шчыліны ды пападзе пыл, пераед тады загіне.

Існуе шмат розных відаў гэтых пуха-і пераедаў. Іншы раз на адну птушку нападае іх некалькі відаў. Яны дужа непакояць птушку і псуюць ёй пяро. Асабліва шмат шкоды яны могуць нарабіць птушцы, калі яна ліняе; пераеды аб'ядаюць новае пяро. У большасьці гэтыя пераеды перапаўзаюць з аднае курыцы на другую ўначы.

Такім чынам мы цяпер даведаліся, чаму куры рыюцца ў пяску. Але як-жа быць курам зімой, калі зямля знаходзіцца пад сьнегам і нідзе няма пяску.

У такім разе трэба рабіць для курэй так званую пыльную ванну. Робіцца яна такім парадкам: зьбіваецца скрынка вышынёю ў 3—4 вяршкі, ня менш паўтара аршына шырыні і даўжыні. Наогул разьмер скрынкі павінен быць такім, каб у ёй маглі зьмясьціцца некалькі курэй за раз. У гэту скрынку насыпаюць дробнага пяску, пылу і попелу. Ставяць скрынку ў тым месцы куратніка, дзе больш бывае сонца. Калі пясок і пыл пакрыюцца гразёй, тады трэ-

ба іх замяніць сьвежымі. Каб зручней было скрынку пераносіць, трэба зрабіць да яе ручкі.

Гэта пытаньне цяпер для нас зразумела, але ў шмат якіх кніжках па курагадоўлі нам даводзілася чытаць, што трэба ў куратніку замазаць усе шчыліны, праз пэўны час рабіць пабел унутраной часткі куратніку, або прамываць усё газай з вадой, або карболаўкай.

У гэтым выпадку аказалася, што шляхам такіх мераў вядзецца барацьба з так званым птушыным клешчам. Гэты клешч пераходзіць ад курэй на хатніх жывёлаў і нават чалавека. Укусы птушынага кляшча, асабліва у коняй, выклікаюць асаблівую сыпку на скуры. Іншы раз ён запаўзае ў вуха жывёлы, ад чаго можа быць запаленьне вуха.

Птушынага кляшча вельмі цяжка ўбачыць у дзень. Аднак-жа нам дужа хацелася пабачыць яго. Для гэтага мы прымушаны былі пайці на хітрыкі. Да сьцяны куратніка мы прывесілі кавалак матэрыі цёмнага колеру. На другі дзень, калі выпусьцілі курэй гуляць, мы зьнялі павешаны кавалак матэрыі і знайшлі на сьцяне гэтага кляшча. Ён быў вельмі маленькім і, каб больш падрабязна яго разгледзець, нам патрэбна было павялічальнае шкло.

Вось цяпер мы ведаем, чаму патрэбна замазваць усе шчыліны куратніка. Аграном **А. Штрандт**.

# Паштовая скрынка.

**Самцэвічу**. „Гісторыя нашага атраду" друкавацца ня будзе. У допісе паказаны толькі агульныя заўвагі аб тым, калі організаваўся атрад і колькі ў іх маецца піонэраў. Пішы лепш пра асобныя цікавыя моманты працы атраду.

**Айзэнштату, Б**. Вершы твае слабыя. Апрача гэтага напісаны на расійскай мове і ніякай цікавасьці для нашай часопісі не прадстаўляюць. Дрэнных вершаў ні перакладаць, ні зьмяшчаць ня будзем.

**Гур'яну, М**. Верш „Вясна прышла" да друку не падыходзіць. Вось яго пачатак:

Дзе нядаўна мяцеліца выла,
Дзе ляжалі сьнегавыя хаты.
Там сягоньня мяне весяліла,
Дзе ўжо вышаў ў поле араты.

Зусім няправільна пабудаваны сказ „там сягоньня мяне весяліла" і няправільна зроблена сынтаксычнае злучэньне яго з чарговым сказам.

Трэба ўважна адносіцца да стылю (злучэньне паасобных слоў у сказы і іх сынтаксычная сувязь).

**Вярбовічу М. і Хведаровічу. С**. Апавяданьне ваша мала чым адрозьніваецца ад простай корэспандэнцыі, дзе перадаецца той ці іншы факт. Ніякай сапраўднай апавядальнасьці ў ім няма. Вось чаму і нельга яго надрукаваць у часопісі.

**Хацкевічу, Р**. „Першы замарозак" ня пойдзе. Напісана няграматна. Раім табе вучыць пакуль што граматыку і старацца прывыкаць да правільнай мовы. Да гэтага-ж трэба дадаць і тое, што верш твой нічым ня розьніцца ад артыкула, бо аднэй рыфмы яшчэ мала для верша.

**Нецярпліваму**. Верш „Лес увосень" і пераклад апав. „Габрэй" зьмешчаны ў часопісі ня будуць. У вершы нічога нельга зразумець, што і да чаго гаворыцца. Вось прыклад:

Глуха шэпча лес хваёвы.
Сумным поглядам шуміць,
бы вясною ен зялёны
Зіму смуглую стаіць.

Трэба старацца ў вершы гаварыць проста, зразумела і праўдападобна, бо „Лес шумець сумным поглядам" ніколі ня можа і ня будзе. Падобных рэчаў вельмі шмат у тваім вершы

Апавяданьне перакладзена няўдала. Іншыя матар'ялы яшчэ не разгледжаны.

**Р. Бяздольнаму**. У тваім вершы „Песьні працы" маецца шчырасьць і замілаваньне да жыцьця і працы, але гэтая шчырасьць твая ня мае поэтычнага афармленьня ў вобразах, якімі ты карыстаешся.




...Ой, бяз іх мне сумна, нудна
І на сэрцы нешта брудна..

Бачыш, такога вобразу „на сэрцы брудна" цяжка сябе ўявіць. Апрача гэтага ты не аўладаў яшчэ стала граматыкай; часта пішаш няправільныя, няпрыгожыя звароты:

...Сьвежым ветрыкам абвее
Вашых думак песьня гэта,
Як та ляцяшчая камэта,
Як калі зьляціць, згарае
Ў вашых вочак так маргае.

Тут у гэтым сказе цяжка дабіцца асноўнай думкі затым, што сказ зусім няправільна пабудаваны з пункту гледжаньня сынтаксу мовы.
На такія няправільнасьці трэба ўсім зьвяртаць увагу.

**Гінтауту, Ф**. Апавяданьне „Петрачка" ня мае сваёй асноўнай думкі, ня мае пэўнай мэты, што і для чаго тут напісана. Праўда, паасобн. бытавыя моманты з жыцьця дзяцей вышлі ўдала (пасьба кароў, час, калі матка будзіць сына), але ўсе іншыя малюнкі вышлі сухімі і ня прывабнымі, ня цікавымі для чытача. Друкавацца ня будзе.

**І. Дубку**. Апавяданьне ваша друкаваць нельга. Разьмер апавяданьня не адпавядае прывабнасьці чытача з боку фабулы.

Той асноўны факт, што хлопец зблудзіў у лесе і праз гэта не „папаўся" за кражу дрэва, ня зусім спадабаецца чытачу. Мастацкія якасьці формальнага парадку ў вашым апавяданьні бясспрэчна маюцца.




## Жартлівыя запытаньні.

1. Ад якіх лясных расьлін трэба адарваць верхавінку, каб атрымаць жывых істот?

2. Ад якой птушкі трэба адарваць галаву, каб зрабіць яе рэчнай жывёлай?

---

**Даклад піонэркі на сходзе бацькоў.**



*Піонэрка*—дакладчыца: Рабяты! Сход нашага старыкоўскага атраду лічу адчыненым...

*Дзед* (да бабы сваёй): Ці чуеш, Ганулія?!—Гэта-ж мы ўжо з табой у атрадзе... Запісалі нас, значыцца, ці якое ліха?..

---

3. Ад якой часьціны цела кошкі ці сабакі трэба адняць першую літару, каб, пераставіўшы яе на канец слова, атрымаць тое, без чаго нам зімой надта дрэнна?

4. Ад назвы якога памяшканьня трэба адняць першую літару, каб зрабіць з астатніх частку вакна?

5. Ад якога паўвострава СССР трэба адрэзаць пачатак, каб апынуцца ў горадзе Італії?

6. Ад назвы якое гаспадарчае прылады трэба адняць першую літару, каб атрымаць сенажаць?

7. Якім здарэньнем можна есьці пры ўмове, калі адняць ад яго першую літару?

8. Ад якой часткі агарода трэба адняць пачатак, каб атрымаць гутарку, нараду?

### Шарада № 1.

Т.—будзе пачатак.
Другі склад у рэчцы знойдзеш.
Трэці—у тым, чым матка бульбу на
    бліны дзярэ.
**Усё**—цяпер на вёску
З места прывязьлі.
З шумам ён вясёлым.
Ідзе па зямлі.



**На гэтым малюнку паказана, як піонэры Афрыкі могуць організаваць сваю спортыўную пляцоўку ў тым выпадку, калі ў іх няма для гэтай мэты штучных прыладаў. Хобат слана (а іх у Афрыцы, як вам вядома, шмат) можа служыць турнікам; рогі барана—брусамі; горб вярблюда—кабылай; зьмяя можа прыгадзіцца для скаканьня і г. д.**

### У афрыканскай школе.

(*На лекцыі геаграфіі*).




**Настаўнік:** Цяпер мы будзем займацца з вамі вывучэньнем жывёлаў Афрыкі. Жывёлы ўсе, якіх я заклікаў для таго, каб наглядна вам аб іх расказаць, бачыце, зьявіліся...

## Хто разьвязаў задачы.

**Шапіра, Кацеў, Шклярук, Окунь, Валымянская, Калачык і Рэлькіна** (вучні Койданаўскай яўрэйскай сямігодкі) разьвязалі задачы з № 10 часопісі: задача № 1—ён купіў 6 нумароў газэты; гэографічная задача мае наступныя адказы: 1) Масква. Енісей, Нёман, Слуцак і Коўна.

**П. Бажок** разьвязаў задачы № 1 і № 2 з № 9 часопісі. Адказы наступныя: № 1—пітвар, Адам, вада, рама; № 2—Піонэры, пішэце і прысылайце ў рэдакцыю шарады, задачы і загадкі!

Усе іншыя адказы няправільныя.

### Задачка літар № 1 (Я. З.).

ле—
ко—
ям—
до—
юл—
ё—

Замест працяжнікаў, падбярэце адпаведныя літары, каб, пры чытаньні зьверху ўніз, атрымалася прозьвішча вядомага правадыра ЎсеКП.

### Задача № 2 (Я. З.).

| | | | |
|---|---|---|---|
| | У | | |
| Л | У | Ж | А |
| К | А | М | П |
| | К | Ы | |

У 1905 годзе вядомы беларускі поэта першы раз выступіў на літаратурнай ніве са сваім вядомым вершам. Прозьвішча поэты і назву верша адшукайце ў літарах гэтай фігуры.

### Рэбус.




### Быў дзіця.

Словы **А. Александровіча.** Музыка **М. Равенскага.**




Быў дзіця—жыцьця ня бачыў,
стала лепш—і ён цяпер:
— Гальштук дай мне, няінач,ай,
Буду добры піонэр.

Падрасту і ў комсамоле
папрацую й яшчэ як!
Палюбіў я ў нас, у школе,
комсамольскі маладняк.

А як вырасту, дык сільны
ў нашу армію пайду:
Беласток, Гародню, Вільню
я да Менску прывяду.

Я дзіця машын, заводу,
працу моцна я люблю.
Каб жылі сяляне ў згодзе,
сам жняярак нараблю.

Есьць-жа дзеці, як вароны,
то на плошчу, то на сквер.
А мне гальштук дай чырвоны,
Буду добры піонэр.

Выданьне **НКА БССР.** Рэдактар—**Рэдколегія.**

